Цана асобнага нумару **20** гр.

№ 2. Вільня, Субота 29 Чэрвеня 1929 г. Год 1.

# СЬВЕТ

Адрас Рэдакцыі і Адміністрацыі
Вільня, Вялікая вул. № 3 кват 10. (над цынкаграфіяй Занеўскага).

„СЬВЕТ“ каштуе на год — 8 зал., на паўгоду — 4 зал.; на чверць году — 2 зал., на 1 месяц — 1 зл.

ЦАНА АБВЕСТАК: на 1-шай старонцы 30 гр., 2 і 3—25 гр., на 4-ай — 20 гр., за радок дробнага друку ў аднэй палосцы.

**ТЫДНЁВАЯ ГАЗЭТА.**

## Голад і барацьба з ім.

У Віленшчыне і частцы Наваградчыны пануе голад. Усе гэта ведаюць. Мала таго, як у трубы трубяць аб ім усе буржуазныя газэты.

Для прыкладу возьмем некалькі «плакучых» слоў з «Кур'ера Варшаўскага», які піша аб палажэньні галадуючага сялянства так: »Увесь наш край занепакоены голадам, які адведаў значную частку Віленскай тэрыторыі, налічваючай каля 150.000 насельніцтва. („Маленькая“ недакладнасьць — рэд.). Праз некалькі гадоў зямля давала незадавальняючыя зборы, а прашлагодні неўраджай, злучаны з вясеньняй паводкай, зруйнаваў сялянства ў 13 паветах Віленшчыны, Брак хлеба, брак пашы для быдла. Няшчасныя ўжываюць, як ежу траву, кару дзерава, перамерзлае насеньне лёну, а гнілыя саламяныя стрэхі здымаюць на пашу для схудалага быдла. Гаспадаркі сялянскія руйнуюцца, а брак насеньня пагражае і на будучыню вялікімі няшчасьцямі. Падумайце толькі, як церпяць тысячы схудалых дзяцей і матак, якія кормяць сваіх дзетак. Трэба ведаць, што голад ёсьць аднэй з найстрашнейжых няшчасьцяў людзкога жыцьця“.

Не бракуе падобных словаў і ў іншых буржуазных газэтах. Страты у зьвязку з голадам у аднэй Віленшчыне па прызнаньню манархістычнага „Słowa“ раўняюцца аж 180 мільёнаў злотаў.

«Голад — ня цётка» — кажа пагаворка. І буржуазія разумее што голад — пружына грамадзкага руху наагул, а востры, стыхійны голад — можа прывясьці прост да нечаканых для яе вынікаў, калі аднясьціся да яго няўважна. Галодныя раёны былі заўсёды прадметам спэцыяльнае «апекі» з боку буржуазыйнага грамадзянства і буржуазных урадаў. Мала таго, апошнія заўсёды стваралі галасьлівую «дабрачыннасьць» навакол голаду. Яшчэ ў памяці факт, калі царскі ўрад падчас голаду ў канцы 90 г.г. не дазваляў інтэлігенцыі на чале з пісьменнікам В. Караленкам праводзіць барацьбу з голадам.

Нешта падобнае бачым і цяпер. Падымаецца шум навакол голаду, вымагаецца ўрадавая дапамога ў разьмеры паўтара мільёна злотаў, а цяпер гэтах дапамога зьвялічана да 3 мільёнаў, (на 180 мільёнаў страты), адкладаюцца падаткі надалей, якія ўсё-ж некалі прыдзецца плаціць, робяцца пазычкі, у лік якіх, або за працэнты на іх даўжнікі мусяць хадзіць на будоўлю дарог, робяцца і іншыя падобныя паўмеры. Поруч ствараецца буржуазны «Камітэт Дапамогі», як зазначае для распадзелу, на чале ягога ставяцца людзі найменш папулярныя ў насяленьні, як б. міністар Мэйштовіч, галоўны інспіратар суду над Грамадой ды біскуп Ялбжыкоўскі, з чаго відаць, наскольki ня сур'ёзна ставіцца пытаньне аб дапамозе. Ваявода і іншыя высокія дастойнікі езьдзяць па галоднаму абшару.

Тымчасам стараньні Беларускага Сялянска-Работніцкага Пасольскага Клюбу яшчэ з восені прошлага году залажыць Камітэт грамадзкай дапамогі ў Вільні пацярпелі няўдачу.

Калі ў Сойме Клюбам была падаця сьпешная прапазыцыя аб дапамозе і проці перашкодаў — яна асталася і дасюль нейдзе між паперамі маршалка Сойму, але замест яе ў самы дзень падачы праходзіць прапазыцыя безпартыйнага блёку. Найлепшы доказ «опозыцыйнасьці» п. п. пэпээсаў і іх маршалка! Паданы ў Варшаве Статут «Камітэту Галадуючых» п. п Старасты ня хочуць прызнаваць, як гэта робіць п. Баранавіцкі Стараста.

Аднак усе гэтыя меры ня прыводзяць да пажаданых скуткаў.

Сам віленскі ваявода, вярнуўшыся з падарожжа па Віленшчыне, кажа, што «акцыя гэтая (дапамога галадаючым—Рэд.) не абняла яшчэ ў цэласьці існуючых у гэтай галіне патрэбаў, а дзеля гэтага ў цэласьці яшчэ не заспакоены слушныя і запраўдныя патрэбы ўсяе люднасьці, пацярпеўшай ад неўраджаю».

І далей п. ваявода сьцьвярджае, што «у галіне дапамогі насяленьню, пацярпеўшаму ад неўраджаю існуюць яшчэ вялікія патрэбы, так што хуткая грамадзкая дапамога, паміма ўрадавае абавязкава і надалей»

Мы хочам зьвярнуць увагу на другі бок мэдалю. Ніхто ня будзе спрачацца, што найбольш на голадзе цярпяць незабясьпечаныя пласты вёскі. Голад у іх, як нават сьцьвярджае вышэй прыведзеная цытата з «Кур. Варш.» — і раней ня быў навіной. Ды аб гэтым хіба-ж ведае чуць ня кожны селянін ў вёсцы.

У бяднейшай частцы сялянства, а яно ў нас найбольш зьяўляецца такім—свайго хлеба хапае толькі на пэўны час. Зямельная плошча 2/3 ўсіх сялянскіх гаспадарак нашага Краю не перавышае 4 дзесяцін. Сяляне жывуць пераважна бульбай, якой таксама не хапае. Заработкаў на месцы няма, у гарадох—сваё безработьце, цяпер да таго перажываем гаспадарчы крызіс наагул; адплыў у гарады немагчымы. Зямельная рэформа заспакойвае зноў-жа багацейшыя пласты вёскі. Асадніцтва ўбілася клінам у наша сялянства. Тымчасам прырост люднасьці ідзе сваім натуральным тэмпам, гаспадаркі дзеляцца яшчэ далей. Ня можам не сказаць, што палажэньне нашага Краю ў цэлым далёка незавіднае. Ён зьяўляецца «Крэсамі», рынкам збыту тавараў польскай прамысловасьці і крыніцай таннага сырца. «Кур'ер Віленскі» піша ў адносінах да асноўнай прамысловасьці нашага Краю — тартакоў і апрацоўкі дзерава — што чыгуначны тарыф за правоз абробленага дзерава ўложаны так, што выгадней вывазіць у Пазнань неаброблёнае дзерава і абрабляць яго там, чым абраблядь яго на месцы і бачыць у гэтым тарыфе галоўную прычыну застою і ўпадку тартачнай пракысловасьці ў нашым Краі. З упадкам краёвай прамысловасьці зьвязаны і заработак, брак якога так адбіваецца на насяленьню.

Да агульных няшчасьцяў бяднейшай часткі насельніцтва ўсяго Краю прылучаюцца падаткі, поруч з урадовымі—самаўрадовыя, дарожныя і інш. Самаўрады амаль ня могуць праявіць сваей ініцыятывы і мусяць часта асыгнаваць грошы на мэты, якія далёкі ад мясцовых патрэбаў.

Пры такім палажэньні голад і барацьба з ім набывае значэньня агульнае праблемы беларускага сялянства (як і сялянства наагул). Нават ураджайныя гады не затушоўваюць гэтае праблемы. Неўраджай не зьяўляецца адзінай прычынай голаду. Ён толькі абвастрае палажэньне, змушае да яго больш прыглядзіцца, піхае і ўрадовыя і далёка стаячыя ад сялянскіх гушчаў буржуазныя варожыя ім чыньнікі—на галас, на нейкую хоць відавочнасьць дапамогі. Няўвага да голаду — можа сумна для іх кончыцца і таму — галас, шум.

Але мы канстатуем, што голад шырэйшых пластоў сялянства — гэта зьявішча сталае ў нас. Неўраджай — гэта прыпадковы чыньнік, які завастрыў і бяз яго адбываныя працэсы. Брак зямлі — вось галоўная і запраўдная прычына сталага голаду нашае вёскі.

Сялянства ў барацьбе з голадам хіба-ж мала спадзяецца на направу ад распрадзялковых камітэтаў п. Мэйштовіча і біскупа Ялбжыкоўскага. Паўмеры не супакояць галодных Віленшчыны і граза голаду стаіць перад беларускім сялянствам і надалей.

Нават такія меры, якія выстаўляюць беларускія сялянска-работніцкія палітычныя групіроўкі — як звальненьне ад падаткаў галадаючы, зусім беззваротныя субсыдыі грашыма, ежай, насеньнем і інш.—нямогуць яго зьнішчыць, а хіба толькі часова паменшыць палажэньне галадуючых.

У барацьбе з голадам, як у Віленшчыне, гэтак і на ўсім краю беларускае сялянства можа разьлічаць толькі на свае уласныя сілы і на саюз з іншымі працоўнымі.

## Пяцігодка у СССР.

Уся буржуазная прэса, не выключаючы і так званай левіцовай, усьцяж крычала і крычыць аб тым, што у Савецкім Саюсе гаспадарка занепадае, пануе голад, насяленьне дастае хлеб толькі па картачках, што агулам там пекла і не далёкі той час, калі Савецкая улада павінна разваліцца.

Аднак факты паказваюць нешта іншае. Ня гледзячы на інтэрвэнцыі, на блёкаду, разрыў зносінаў з СССР — апошні ня толькі не развальваецца, а наадварот, што раз больш украпляецца і будуе народную гаспадарку зусім на іншых падставах.

У сучасны мамэнт нас цікавіця адно—гэта пяцігодка у СССР, інячай пяцігадовы плян гаспадарчага і культурнага разьвіцьця Савецкага Саюзу. намечаны на 5-ым зьезьдзе Саветаў. Плян гэты прадугледжвае магутны ўзрост, як гаспадарчага, так і культурнага жыцьця краю. У параўнаньні з папярэднім пяцігодзьдзем, намечаны плян пяцігодкі, г. зн. ад

128627
Centr. Biblioteka

# З жыцьця самаўрадаў.

— **У Моўчадзкай гм., Баранавіцкага пав.**, пад час зацьверджаньня гміннага бюджэту, ня было зусім у ёй прапазыцыі „пэнсыя для сэквэстратара".

Але вось, пад канец бюджэтнага году, войт гміны, як гэта заўсёды робіцца, дае для апрабацыі гміннае рады расходовыя рахункі. пры пераглядзе гэтых рахункаў аднаму з радных папаўся ў вочы рахунак на 900 зл, „пэнсыі для сэквэстратара".

На яго запытаньне: адкуль гэта ўзялося, бо такое пазыцыі ў бюджэце ня бачыў—войт адказаў, што гэта зроблена па распараджэньню Старасты і г. д..

Але і гэтага распараджэньня ніяк і ніхто ня мог знайсьці.

Аднак справу трэба-ж загладзіць (як-жа, войт свой чалавек!)

Дык гмінны інспэктар, на перш пачаў страшыць гэтага няшчасьлівага раднога (якому ўсё лезла ў вочы, нават, гэты і рахунак.) што за гэта ён будзе пацягнены да адказнасьці, бо сам будзе за сэквэстратара. А пасьля парадзіў усей радзе, прыняць гэты рахунак.

І яго... прынялі.

**Мясцовы.**

# Усячына.

## Не кажэце ніколі праўды.

У № 27 „Samopomoc Chłopska" чытаем:

„На зьезд індускіх профсаюзаў прыехаў у Індыю аўстрыйскі дэлегат Раен, які перад гэтым зьездам пабываў у СССР.

Выступаючы на мітынгу у Бамбэю, успомніў Раен аб Саюзе Савецкіх Рэспублік, між іншым, так:

—„Штодзенна чытаю ў буржуазнай прэсе махлярскія весткі аб С.С.С.Р. Калі-б на ўласныя вочы ня бачыў, як там жывуць рабочыя і сяляне, дык мог-бы паверыць гэтай нясумленнай правакацыі буржуазных газэтаў, аднак уласным вочам веру больш, чым тым махлярствам.

..."Бачыў там палацы, якія раней былі уласнасьцяй багачоў—цяпер у іх там работніцкія клюбы. Бачыў там, што абшарніцкая зямля аддана сялянству. Бачыў далей, як работнікі па 7 або 8-гадзіннай працы, адведываюць клюбы, бяруць чынны удзел у палітычным жыцьці. Бачыў там таксама кабеты: міліцыянткі, трамвайныя кандуктаркі, як таксама і сяброў ураду.

Бачыў там вольнасьць, парадак і разьвіцьцё поступу.

Гураганнымі акляскамі прынялі сабраныя работнікі выступленьРаена. Стэнограму яго прамовы зьмясьціла нацыяналістычная індуская прэса на першай старонцы, выступленьне яго ўзварушыла шырокія работніцкія колы; ня доўга прышлося чыкаць вынікаў. Загула буржуазыйная прэса, і паліцыя „дзяржаўна" пачала апекавацца Раенам.

На трэці дзень пасьля мітынгу да Раена зьявіўся гаспадар готэлю, жадаючы заплаты за тыя дні, якія ён намераны быць у готалю.

Раен згадзіўся і запрапанаваў заплаціць за месяц.

„Немагчыма, — адказаў перапалоханы гаспадар готалю— я маю загад выкінуць вас. У ніякі готэль у месьце вас ня прымуць."

— Чаму?

— А нашто вы так расказывалі аб СССР.

— Я казаў толькі тое, што бачыў на ўласныя вочы.

— Эй, пане,—калі хочаце яшчэ жыць дык ніколі не кажыце праўды — навучаў яго гаспадар.

Раена, выдаленага з места, адводзіў паліцыянт, прычым па дарозе тлумачыў яму „па добраму."

— Ня трэба гарачыцца... Праўды ня можна гаварыць усім.

Раен выехаў, зьдзіўлены гэтаю адвадумнаю перасьцярогаю паліцыянта і гаспадара готэлю.

# З жыцьця Радавае Беларусі.

— У панядзелак 25 сакавіка г. г. адбыўся у памешканьні Беларускага Дзяржаўнага Тэатру вечар, прысьвечаны творчай працы Ул. Галубка і наданьня яму годнасьці народнага артысты. Вечар Гэты арганізаваны быў літаратурным абяднаньнем „Полымя", членам якога зьяўляецца Ул. Галубок.

Урачысты вечар, прысьвечаны літаратару і артысту Уладыславу Язэпавічу Галубку з прычыны наданьня яму годнасьці народнага артысты, адкрывае Міхась Чарот.

З дакладам аб літэратурнай і тэатральнай дзейнасьці Я. Галубка зыступіў пісьменьнік Цішка Гартны.

— На выстаўцы Міжнароднала Т-ва кніжнага знаку у Лос-Анджэлосе (Паўночная - Амэрык. Злуч. Штаты) у маі 1928 г. ад Б.С.С.Р. удзельнічалі мастацкія працы Е.С. Мініна з кніжнымі знакамі, А. А. Шлюбскага, Б. М. Гурэвіча і восем знакаў С. Б. Юдовіча, з якіх 3 належыць вядомаму знаўцы мастацтва Фурману. Юдовіч за свае знакі атрымаў ганаровы водзыў — дыплём. Гравюры Мініна „Стары Віцебск", зьмешчаныя ў выданьні „Віцебскія мастакі", надрукаваны у лёнданскім ангельскім штогодніку. 23 гравюры на дрэве Юдовіча ў лютым 1929 г. удзельнічалі на выстаўцы ў Нью-Ёрку.

На чарговай выстаўцы ў маі 1929 г. Міжнароднага Т-ва кніжнага знаку ў Лоя-Анджэлосе удзельнічаюць працы наступных віцебскіх мастакоў: 1) Е. С. Мініна з кніжнымі знакамі Мініна, Касьпяровіча і Фурмана і 2) Л. М. Леймтам з знакамі Фурмана.

— Этнографічная катэдра Акадэміі Навук сабрала каля тысячы беларускіх народных песень і мэлёдый, запісаных у Савецкай і Заходняй Беларусі. Ў мінулым годзе быў выпушчаны першы зборнік народных песень. У сучасны момант рыхтуецца зборнік з 50 калядных песень. У зборнік увойдзе значная частка такіх песень, якія да гэтага часу нідзе ня былі надрукаваны.

—Белдзяржкіно мяркуе ў бліжэйшы тэрмін прыступіць да здымкаў фільмы з жыцьця Парыскай Камуны.

—Галоўмастацтвам зложаны плян пяцігадовага будаўніцтва мастацтва ў БССР. Пяцігодка прадбачыць у галіне тэатральнага будаўніцтва: заснаваньне тэатральнай драмстудыі з наступнага году, пабудову тэатру ў Менску і тэатраў у Воршы ды Полацку, утрыманьне трох дзяржаўных і трох вандроўных тэатраў, дапамога маладому колектыву „Беларускі рабочы тэатр".

У процэсе працы тэатраў, апроектаваны гастролі дзяржаўных тэатраў у Маскве, Ленінградзе, Харкаве і за межамі СССР.

У галіне музыкі прадбачана: перавод к канцу пяцігодкі музтэхнікуму ў кансэрватарыю і організацыю опэры; адчыненьне па аднэй у год ніжэйшай музычнай школе; заснаваньне сымфонічнага концэрту і дзяржаўных капэль (беларускай і расейскай).

У галіне вобразнага мастацтва: наладжаньне пэрыодычных выставак, адчыненьні ніжэйшай мастацкай школы ў Магілеве, пераход мастацкага тэхнікуму ў Акадэмію мастацтваў. Для музычных, мастацка- вобразных і літаратурных твораў прадбачыцца асобная штогадовая прэмія; таксама ўносіцца ў штогадовы каштарыс па Наркамасьвеце асобны фонд для дому пісьменьніка, пісьменьніцкіх арганізацыяў, арганізацый мастакоў і фонд на набыцьце твораў мастакоў.

Апроч гэтага ў пяцігодцы Галоўмастацтва намечаны яшчэ шэраг мерапрыямстваў у галіне мастацкага будаўніцтва БССР.

— Белдзяржкіно распачало сваю дзейнасьць з студзеня 1925 г. і зьяўляецца самай маладой кіноарганізацыяй у СССР. За 4 гады існаваньня ў працы Белдзяржкіно ёсьць значныя дасягненьні. Створаны шэраг нацыянальных фільм („Лясная быль", „Кастусь Каліноўскі", „Песьня вясны" і інш.), арганізавана ўласная вытворчая база-кінофабрыка ў Ленінградзе. Праводзяцца мерапрыемствы па выхаваньню беларускіх кваліфікаваных мастацка-вытворчых сіл праз пасылку ў рэжысэрскія аддзяленьні Дзяржаўнага кіно-тэхнікуму ў Маскве, праз практычны стаж асыстэнтаў-консультантаў на кінофабрыцы Белдзяржкіно і г. д.. Значна пашырылася з моманту арганізацыі Белдзяржкіно кіно-сетка як у горадзе, так і ў вёсцы. Калі ў 1925 г. было 53 стацыянаркі і 3 кіно-перасоўкі, то зараз мы маем 204 стацыянаркі і 170 кіно-перасовак. Белдзяржкіно цяпер мае ўласных 11 кіно-тэатраў. Да гэтага часу Белдзяржкіно выпушчана 16 кіно-фільмаў. Некаторыя кіно-фільмы, як: „Лясная быль", „Кастусь Каліноўскі" і інш. карыстаюцца значным пасьпехам ня толькі у СССР., але і за межамі (у Нямеччыне, Літве, Латвіі і інш.).

Пяцігадовым пэрспэктыўным плянам разьвіцьця кіно-справы ў БССР. прадугледжваецца пашырэньне кіно-сеткі, як у горадзе, так і на вёсцы. Да канца пяцігодзьдзя прадугледжваецца арганізаваць ня менш 3-х кіно-перасовак і па аднэй стацыянарнай кіноустаноўцы на кожны раён. Гэтым плянам таксама прадбачыцца кінофікацыя школы, будаўніцтва кінотэатру ў рабочых раёнах, пабудова уласвай кіно-фабрыкі на тэрыторыі БССР, выпуск цэлага шэрагу фільм ды інш..

— Савет Народных Камісараў зацьвердзіў вытворчы плян Белдзяржкіно на 1928-29 год. Гэтым плянам прадугледжваецца сканчэньне пастаноўкі 3-х мастацкіх фільмаў, пачатых у мінулым годзе, пастаноўка 8 новых мастацкіх карцін і 4 культур-фільм і бягучая хроніка.

У зьвязку з тым, што разьвіцьцё кінофікацыі ў гарадох патрабуе пабудовы новых будынкаў для кіно і рамонту існуючых, Белдзяржкіно запрапанавала распрацаваць і ўнесьці на разгляд у Дзяржплян проект новага кінобудаўніцтва, а таксама рамонту існуючых кінотэатраў.

—Беларускі дзяржаўны музэй у хуткім часе атрымае з Ленінградзкага Эрмітажу лаля 40 мастацкіх карцін Заходня-Эўрапэйскіх мастакоў 17-19 стагодзьдзя.

—Наркамасьветы выдаў 500 рубл. Бел. Дзяржаўнаму Вандроўнаму Тэатру пад кіраўніцтвам Галубка на пастаноўку вядомай п'есы „Кастусь Каліноўскі".

Тэатр гэту п'есу падрыхтаваў ужо і можа ў любы момант яе паставіць. Такім чынам популярная п'еса „Кастусь Каліноўскі" будзе прасунута ў самыя гушчы беларускай вёскі. П'еса падрыхтоўвалася пад кіраўніцтвам рэжысэра Ф. Ждановіча.

Цяпер адбываецца здымка Белдзяржкіно новай фільмы з жыцьця беларускай вёскі пад назвай „Яна".

# „У пыск".

„Głos prawdy" № 155 з 6 чэрвеня г. г. артыкул „Перасьцярога абаламучаным—адправа правакатарам" канчае так:

„Gazeta Warszawska" зьмясьціла артыкульчык, абгаварваючы здарэньне у часе сьвята 36 п. п. і пісьмо пал. І. Ульрыха ў гэтай справе. У загалоўку гэтага артыкулу марш Першай Брыгады асьмелілася назваць абразаю народных пачуцьцяў. З гэтым ня дыскутуецца. За гэта мы—Першая Брыгада—вас, паны з" „Gazety Warszawskiej"—б'ём у пыск".

У № 155 „Głosu Prawdy" знаходзім такую заувагу:

„Gazeta Warszawska" дастаўшы у пыск—выводзіць па адвакацку, што гэта ня важна, бо ёй губы ня спухлі. Не ўважае сябе пакрыўджанай, бо не калом, але на папе95. Якую-ж грубую скуру даў добры Пан Бог некаторым зьвяром..."

Нічога сабе, характэрныя красачкі з „санацыйнай" палемікі.

Да рэчы сказаць, што да такога пыскаваньня „санацыяй" эндэкаў паслужылі повадам падзеі ў Львове.

Пачалося з таго, што студэнты вышэйшых школ у Львове напалі на жыдоўскія рэдакцыі і іншыя інстытуцыі, дзе здэмалявалі памешканьні, пабілі знаходзячыхся там асоб. Прычынай да такога дзікага антысэмітызму паслужыла тое, што нібы вучаніцы жыдоўскай гімназіі кідалі агрызкі і каменьні „на працэсію Божага цела", якая праходзіла каля іх школы. Паліцыя арыштавала каля 40 студэнтаў, на што ўсе студэнты адказалі дэманстрацыйным салідарным страйкам і цэлым радам дэманстрацыяў, у часе якіх дайшло да боек. Як з боку паліцыі, так і дэманстрантаў былі ранены. Акцыя мелася пашырыцца на ўсю Польшчу, але да антысэміцкіх выступленьняў дайшло ў Пазнані; у іншых гарадох адбываліся толькі мітынгі. Забастоўка цягнулася каля тыдня.

Газэты у той-жа час толькі і трубілі аб гэтым, звальваючы віну адзін на аднаго.

Для нас-жа гэта ўсё роўна. Абое—рабое.


# Новыя кніжкі

выйшлі з друку і прадаюцца

Васілёк „Шум Баравы", выд. Р. Шырмы, цан. . 1 зл. 50 гр.
Х. Ільяшэвіч „Веснапесьні" выданьне А. Ільяшэвічанкі, цана . . . . . . . . . . . . . 1 „
Плеханаў „Асноўныя пытаньні марксізму" пераклад А. Ш., выданьне Бел. Сял.-Работ. Пасольскага Клюбу, цана . . . . . . . . . . . . . 2 „ 50 „
„Пішы самадзейна" першая кніжка пасобнік лемантара выданьне аўтара С. Паўловіча цана . 2 „ 50 „
„Мэтадычныя ўвагі да пасобніка „Пішы самадзейна" выд. аўтара С. Паўловіча цана . . . 30 „
„Як палепшыць пескавую глебу" выд. „Сахі" цана 30 „

Усе гэтыя кніжкі можна купіць у беларускіх кнігарнях.


Рэдактар — Выдавец АЛЬЖБЕТА МАЛЬЧЕЎСКАЯ. Беларуская друкарня Ім. Фр. Скарыны, Вільня, Людвісарская

BIBLJOTEKA w Wilnie im. Wróblewskich